# Са святам, родная Беларусь!

«Сіла, брат, у грамадзе!»

Я. КОЛАС



ПАСТАЎСКАЯ НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

Выдаецца з ліпеня 1991 года

№ 13 (56) | 8—25 ЛІПЕНЯ 1994 ГОДА | Цана дагаварная

ПРЫСЛУХАЕМСЯ

студэнт універсітэта ЗМІЦЕР ДАРОХІН

## Будучыня—за маім пакаленнем

**Зноў Беларуссю будзе кіраваць чалавек, які «как хаціт, так і гаварыць». Можна чакаць, што камісія па дзяржаўным гімне будзе скасаваная, бо, відавочна, што прэзідэнта Лукашэнку задавальняе і «Мы, беларусы, з братняю Руссю». Ды і герб БССР на Дому ўраду будзе якраз да месца.**

**Гэта будзе прэзідэнт, які ўжо вядомы не толькі на Беларусі, але і за еймымі межамі: расейцы мелі магчымасць паслухаць, як ён прасіўся ў дэпутатаў Думы, каб яны дапамаглі яму стаць прэзідэнтам Беларусі. Гэта будзе прэзідэнт, вядомы як змагар з карупцыяй. Але «генеральскія вяселлі» і «дзікія паляванні Кебіча», раскраданне і продаж дзяржавы — гэта не тыя рэчы, якія заслугоўваюць увагі прэзідэнта. Ён больш вядомы як выкрывальнік галоўнага «мафіёзі» краіны Шушкевіча. Мяркую, што наступным будзе выкрыццё другога «бандыта-нацыяналіста» Пазьняка. Вось з імі расправімся, тады зажывём!**

**На маю думку, Пазьняк шмат чакаў ад свайго народу, які амаль тры стагоддзі ня меў сваёй дзяржавы, гвалтам быў пазбаўлены сваёй мовы, культуры, гісторыі, сваіх лепшых людзей. Ідэі дзяржаўнасці і незалежнасці Беларусі — дужа абстрактныя паняцці для большасці беларусаў. Людзі азлобленыя, і яны проста прагнуць помсты. Але я перакананы, што будучыня за людзьмі майго пакалення.**

**Амаль усе мае знаёмыя і сябры, студэнты лінгвістычнага ўніверсітэта, былога інстытута замежных моваў галасавалі ў першым туры за Пазьняка альбо Шушкевіча. Для нас Радзіма — гэта не БССР, не расейскі «Северо-Западный край», а вольная, незалежная Беларусь. Будучыня краіны — і за тымі дзеткамі, што цяпер вучацца ў школах на беларускай мове. У свой час для іх ня будзе пытання, колькі зрабіць дзяржаўных моваў, валюту якой краіны яшчэ ўвесці і г. д.**

ПРАВІНЦЫЙНЫЯ ХРОНІКІ

## Не патрэбны арміі салдаткі

Нядаўна каля 40 жанчын — ваеннаслужачых авіяцыйнага палка беларускай арміі, што размяшчаецца на ваенным аэрадроме ў Паставах, атрымалі непрыемную для сябе навіну. У адпаведнасці з загадам, які падрыхтаваны ў міністэрстве абароны, ім давядзецца развітацца з вайсковай службай. На розных пасадах неслі яе гэтыя жанчыны, у многіх і выслуга немалая — і вось патрэбнасць у жанчынах-ваеннаслужачых адпала.

Сам факт звальнення ў час, калі беспрацоўе становіцца рэальным і знайсці работу ў такім невялікім гарадку, абцяжараным ранейшымі ліквідацыямі вайсковых часцей, немагчыма, не дабаўляе аптымізму жанчынам. Акрамя таго для многіх з іх рушацца надзеі на атрыманне жылля, якое ў становішчы ваеннаслужачых было рэальным, а пасля звальнення — ужо не. А сярод жа жанчын ёсць маці-адзіночкі, ёсць тыя, хто выхоўвае дзяцей у няпоўных сем'ях.

Ці пойдзе камандванне ім насустрач, ці прадаставіць на развітанне кватэры, яшчэ невядома. Але магчымасць такая ў камандавання ёсць, бо ў ваенным гарадку авіятараў жыллё вызваляецца, пакідаюць Беларусь сем'і афіцэраў расійскага авіяпалка, які раней базіраваўся на аэрадроме.

## Калі зайздрасць не белая

Як і ў іншых райцэнтрах, шмат у Паставах ходзіць размоў аб тым, што найбольшую заработную плату і не заўсёды заслужаную атрымліваюць тыя, каму пашчасціла ў нашы няўстойлівыя на курс валют часы апынуцца хоць на якой-небудзь пасадзе ў так званых крэдытных органах, па-просту, аддзяленнях банкаў. А ці так сапраўды? У раённым аддзеле статыстыкі пацвердзілі: безумоўна, па ўзроўню зарплаты, напрыклад, служачыя раённага аддзялення Аграпрамбанка далёка абганяюць усіх астатніх служачых і рабочых райцэнтра. Напрыклад, за чэрвень сярэднемесячная заработная плата па аддзяленню склала 1220,8 тысячы рублёў, з пачатку года 752,7 тысячы рублёў. Трэба ж улічыць, што акрамя кіраўніцтва і вядучых спецыялістаў у аддзяленні ёсць і тэхнічныя работнікі, якія атрымліваюць менш. І калі такая сярэдняя заработная плата, то ў вядучых спецыялістаў яна значна вышэй.

Гэтыя лічбы маглі б радаваць: вось як сталі жыць. Але кожны ў райцэнтры ведае, што заработная плата на прадпрыемствах, якія яшчэ не спынілі з-за крызісу сваю дзейнасць, складае усяго некалькі соцен тысяч, што ў большасці калгасаў і саўгасаў, механізатары і даяркі — таксама вядучыя спецыялісты, толькі ў сферы матэрыяльнай вытворчасці, атрымліваюць добра калі дзвесце тысяч «зайчыкаў» у месяц. Тут ужо не да белай зайздрасці.

**Наш. кар.**

ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ

## Ці загляне сонца у наша акенца?

Магчыма, не надта ўдалае пытанне вынесена ў загаловак, калі ледзь-ледзь выйшлі з працяглай спякоты і з надзеяй чакаем асвяжальнага і вельмі патрэбнага для палёў і агародаў дажджу. Але ж наша краіна, а Беларусь усё часцей называюць так, а не савецкай, як раней, рэспублікай, падыйшла да чарговай гадавіны абвяшчэння сваёй незалежнасці. Толькі зноў 27 ліпеня пры нашым сённяшнім гаротным жыцці, пэўна, будзе не да свята. Між тым імкліва праляцелі яшчэ два тыдні. Прыгадаем у тэлеграфным стыле асноўныя падзеі апошніх дзён.

**Ашаламляльны поспех А. Лукашэнкі, за якога і ў нашым раёне ў другім туры выбараў аддалі свае галасы 25042 выбаршчыкі або 75,5 працэнта.**

**Мінская друкарня нарэшце пачала друкаванне новых беларускіх пашпартоў з выявай «Пагоні» і ў сіняй вокладцы.**

**Праз чатыры месяцы мясцовыя ўлады на Віцебшчыне зноў увялі абмежаванне на продаж гарэлкі, якая падаражэла ў 3 разы і цяпер на новую мінімальную зарплату купіш не больш трох пляшак белай.**

**Завод «Беліт», каб пазбегнуць масавага скарачэння, адправіў увесь свой калектыў акрамя чарговага яшчэ і у прымусовы водпуск без аплаты тэрмінам пакуль на адзін месяц.**

**Адышоўшы ў адстаўку ўрад Кебіча прыняў пастанову аб увядзенні прыборнага уліку расходу газа, вады і цеплавой энергіі, пад якую падлягае і 60-кватэрны жылы дом у Паставах, узвядзенне якога ў эксплуатацыю затрымліваецца.**

**Васіля Быкава, хоць і са спазненнем узнагародзілі медалём Фр. Скарыны.**

**Параднілiся народныя дэпутаты Беларусі Чэпік і Шылько, чые сын і дачка пажаніліся.**

**Праваслаўныя вернікі адсвяткавалі Дзень Сабора беларускіх святых.**

**Пад Гомелем пацярпеў аварыю пасажырскі поезд № 54 Санкт-Пецярбург-Кіеў.**

**У трох месцах у раёне загараўся лес, дзевяць пастаўчан утапіліся у вадаёмах з пачатку купальнага сезона.**

**Бліскучай перамогай бразільцаў у 4 раз завяршыўся чэмпіянат свету па футболу.**

**Услед за гарэлкай у 3 разы павысілася залогавая цана на шклотару.**

**Адменены пасажырскі поезд Віцебск-Вільнюс, прынята рашэнне аб пракладцы на спрэчных з Літвою чыгуначных станцыях паралельных пуцёў, калі не ўдасца дамовіцца з суседзямі.**

**Пастаўскія сяляне завяршаюць першы укос траў, якіх у нас назапашана на паўцэнтнера кармавых адзінак менш, чым летась, і неўзабаве пачнуць жніво.**

Зараз многія з нас чакаюць, што ў Беларусі будзе далей, з прыходам да ўлады маладых прэзідэнта і прэм'ер-міністра. Колішні армейскі замполіт, калгасны парторг пакуль што непрыемна ўражвае сваім нігілізмам да беларускай мовы, што не ўпрыгожвае маладога прэзідэнта. Можна пагадзіцца з аглядальнікамі, што А. Лукашэнка працягне дэманстрацыю эфектаў з безумоўным ператрасеннем кадраў і нават з арганізацыяй серый паказальных працэсаў, у прыватнасці з апошнім першым сакратаром Мінскага гаркома партыі Мінсунам, які ірвануў у рынак з 500000 бутэлькамі гарэлкі, на якіх наварыў сабе ў 1991 годзе 9 мільёнаў.

Можна толькі здагадвацца цяпер да якой ступені згадзіцца беларускі прэзідэнт пайсці пад крыло старэйшага брата. У Крамлі, безумоўна, памятаюць намер Лукашэнкі хоць на каленях паўзці у бок Масквы. І прадстаячыя перамовы з Ельцыным будуць цяжкімі для нас. Паколькі па характару супярэчлівы і непрадказальны беларускі кіраўнік, дык ці згадзіцца ён з пасадай губернатара «Северо-Западного края», якая цалкам задавальняла нядаўняга тэлезорку Кебіча. Пастаўскай жа наменклатуры, якая цалкам на яго паставіла, цяпер можна толькі паспачуваць, бо мясцовы люд не аказаўся такім забітым і дурным, якім яго лічылі. Ясна пакуль адно, яшчэ не скора загляне сонца ў наша акенца з надзеяй на нармальнае дастойнае жыццё.

**У. РАМАНАЎ.**

РЭХА ПАДЗЕЙ

## Хто здрадзіў Кебічу?

За паўтара тыдня да паўторнага галасавання ў час прэзідэнцкіх выбараў на дапамогу Вячаславу Кебічу прыляцела група вучоных з Масквы. У яе склад уваходзілі акадэмік, псіхолаг, экстрасенс, прадказальнік, палітолагі ды іншыя высокакваліфікаваныя спецыялісты. Узначальваў яе вядомы ў Расіі прадказальнік, аўтар тэорый гуманітарнага грамадства ды безпадатковай дзяржавы Сяргей ДАВІТАЯ.

У час гутаркі з журналістамі масквічы вельмі здзіўляліся, чаму Вячаслаў Кебіч набраў так мала галасоў і чаму так высока ўзляцеў Аляксандр Лукашэнка? Сяргей Давітая заўважыў, што ён нічога добрага ад гэтых выбараў не чакае, і падкрэсліў, што ў Беларусі магчыма ў будучым грамадзянская вайна. Дагэтуль беларускі народ мужна пераадольваў усе нягоды, ён не дапусціў звышвысокага спаду вытворчасці, не распрадаў сваё багацце замежным ды сваім камерсантам. Ва ўсім гэтым яны бачылі і немалую заслугу Вячаслава Францавіча. Масквічы не хавалі, што ў Расеі менавіта з ім звязваюць будучае Беларусі, і на яго рабілі стаўку ўрадавыя колы. Што ж датычыць Аляксандра Лукашэнкі, то яго замежныя ваяжоры ацэньвалі вельмі негатыўна, чалавека без неабходных для кіравання дзяржавай навыкаў, з невысокім інтэлектуальным і адукацыйным узроўнем, прэзідэнта, які можа прывясці сваю краіну на край прорпасці.

Шчыра кажучы, самі навукоўцы мала верылі ў перамогу Кебіча, хоць яны рэальна разлічвалі на тое, што выбары не адбудуцца, альбо ніхто з кандыдатаў не набярэ больш паловы галасоў. І група ўзялася за працу. Былі складзены лістоўкі, падрыхтаваны артыкулы, ў газеты, зняты кінафільмы. Але эфектыўнасць работы, як бачым, аказалася нулявой. Чаму?

Прычын гэтаму шмат. Далёка не ўсё з задуманага ўдалося ўвасобіць на справе. Па-першае, не хапіла часу. Каб яны прыехалі хаця б за тыдзень да першага тура галасавання, то змаглі б змяніць неяк становішча. Тады Вячаслаў Францавіч меў у сваіх руках усю ўладу. А цяпер... Не ўсе газеты згадзіліся друкаваць артыкулы, проста пабаяліся, што пасля перамогі Лукашэнкі ім будзе дрэнна. Менскія тэле- і радыёжурналісты, якія былі адпраўлены ім на дапамогу, проста сачкавалі, бо таксама не хацелі асабліва падтрымліваць Кебіча. А па-другое, немалую віну ў паразе прэм'ер-міністра на выбарах, трэба ўскласці на яго самога і на яго акружэнне. Многія з урада тайна працавалі супраць свайго шэфа.

Так ці інакш, але Кебіч прайграў, і цяпер, па словах маскоўскіх вучоных, няхай беларусы чакаюць горшага. Хоць усе будзе залежыць менавіта, ад простага народа, ад яго дзеянняў.

**Уладзімір СЯМЯНЦОЎ,**

**уласны карэспандэнт «Сумежжа» у Мінску.**

ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ

# ЦЕНЯВЫ КАБІНЕТ ДЗЕЙНІЧАЕ

12 ліпеня адбылося чарговае пасяджэнне Ценявога Кабінета Апазіцыі БНФ. Удзельнікі Кабінета далі інфармацыю аб стварэнні рабочых групаў па розных накірунках дзейнасці. За месяц ад пачатку рэфармавання Ценявога кабінета шмат высокапрафесійных спецыялістаў далучылася да распрацоўкі канкрэтных пытанняў у рамках прапанавай Фронтам канцэпцыі сацыяльна- эканамічнага і палітычнага развіцця Беларусі.

Удзельнікі нарады лічаць, што толькі рэалізацыя цэласнай і збалансаванай праграмы выйсця Беларусі з эканамічнага і палітычнага крызіса можа даць плён. Таму асаблівая ўвага была засяроджана на пастаянным узаемадзеянні спецыялізаваных групаў экспертаў. Адначасова была адзначана неабходнасць дэталізацыі і структурыравання праблемаў унутры кожнага накірунка дзейнасці.

Была заслухана і абмеркавана інфармацыя сп. С. Гусака па пытанні стварэння Балта- чарнаморскага нафтавага калектара (БЧНК). У свой час Апазіцыя БНФ выступіла ініцыятарам правядзення палітычнай канферэнцыі дэпутацкіх групаў краінаў Балта-чарнаморскага рэгіёна. Як рэалізацыя вынікаў гэтай канферэнцыі, ізноў па ініцыятыве БНФ, у чэрвені мінулага года ў Мінску была праведзена нарада спецыялістаў - энергетыкаў гэтых жа краінаў, дзе разглядаўся праект стварэння нафтаправода Поўнач-Поўдзень, працуючага ў рэверсіўным (двухбаковым) рэжыме. Аснова для пабудовы БЧНК ужо ёсць — гэта адрэзкі існуючых нафтаправодаў, якія ідуць у неабходных напрамках, у тым ліку і праз амаль усю тэрыторыю Беларусі. Трэба толькі звязаць іх паміж сабой і пабудаваць перапампоўваючыя станцыі.

Відавочна, што такая праца патрабуе дзяржаўных укладанняў. Прадстаўнікі Апазіцыі БНФ і Фронта сустракаліся з урадавымі асобамі Беларусі, Украіны, Літвы, Латвіі, прапагандуючы праект БЧНК. Урады Украіны і прыбалтыйскіх краін, ацаніўшы перавагі гэтага праекта, распачалі практычную дзейнасць па яго рэалізацыі. Аднак Урад Кебіча ня гледзячы на шматлікія звароты дэпутатаў Апазіцыі і спецыялістаў, на працягу года так і не здолеў вызначыцца па пытанні ўдзелу ў ажыццяўленьні БЧНК. У сувязі з гэтым кіеўскі Інстытут транспарта нафты падрыхтаваў новы варыянт пракладкі нафтаправода. Калектар звяжа тэрміналы Адэсы і Гданьска, праз украінска-польскую мяжу, мінуючы Беларусь.

У гэтым праекце, акрамя Польшчы, актыўны ўдзел бярэ і Турцыя. У Кіеве падпісаная дамова, згодна якой Турцыя будзе пастаўляць Украіне штогод 100 млн. т іранскай і іракскай нафты, танкерным флотам на Адэсу. Гэта дазволіць Турцыі абыйсці праблемы, звязаныя з эксплуатацыяй праліва Басфор. Такім чынам, выкарыстоўваючы БЧНК, Украіна амаль поўнасцю будзе забяспечваць нафтай Венгрыю, Чэхію, Славакію, задавальняць значную частку спажывання Польшчы і праз нафтаправод «Дружба» па польскай тэрыторыі экспарціраваць нафту ў Германію.

Такі варыянт пазбавіў Беларусь, на зямлі якой і нарадзіўся праект БЧНК, ключавога становішча ў перабросцы нафты з Чорнага мора ў Еўропу і краіны Балтыі. Адказнасць за гэта нясе Ўрад Кебіча. Аднабаковая арыентацыя на Усход прывяла да таго, што мы страцілі перспектыву вялізарнага даходу за транспарт нафты ў Еўропу і да значнага аслаблення геапалітычнага становішча Беларусі.

**Прэс-цэнтр БНФ.**

ІОСІФ ЗЯМЧОНАК

# „Кулацкія справы“

**Як ішла прымусовая калектывізацыя ў Дунілавіцкім раёне**

**(Працяг. Пачатак у №№ 10—12).**

Маёмасць, якую вы перапісвалі, калі нас перасялялі ў Іркуцкую вобласць 1 красавіка 1951 года. У цяперашні час я знаходжуся ў Польшчы і гэты акт для мяне патрэбен. Прашу не адмовіць маёй просьбе выслаць акт па адрасу. Малец».

Адрас меўся. Начальнік аддзялення міліцыі Дунілавіцкага райсавета ст. лейтэнант Ашчэпкаў 12 сакавіка 1957 года наклаў рэзалюцыю: «у КДБ для выканання». Заўважу, што Іосіф Малец да эміграцыі жыў у вёсцы Сушкі Мосарскага сельсавета.

Даведзеныя калектывізацыяй і вайной да галечы людзі спрабавалі неяк выжыць, гандлюючы, хто чым мог. Аднак гэта праследвалася па закону. Прачытаем яшчэ адзін характэрны дакумент таго часу.

«23 студзеня 1950 г. камісія ў складзе прадстаўніка Дунілавіцкага райфінаддзела старшага інспектара т. Долгай, прадстаўніка Варапаеўскага сельпо т. Серай, прадстаўніка Дунілавіцкага МДБ т. Лысёнак на падставе арт. І Палажэння аб парадку ўліку і выкарыстання нацыяналізаванай, канфіскаванай, вымарачнай і безгаспадарчай маёмасці, зацверджанага пастановай СНК СССР ад 17.04.43 г. № 404 зрабіла вопіс і ацэнку наступнай маёмасці, належачай Патапаву Міхаілу Яфімавічу, пражываючага ў м. Варапаева, вул. Пралетарская.

Канфіскавана: 3 пачкі соды пітной па цане 3 рублі 06 капеек за пачку».

Канфіскацыя набыла ў тыя часы масавы характар. Вось 25 студзеня 1950 года ў жыхара вёскі Кацканы Свянцянскага ўезда В. Амількіна забралі 6 пачак рознакаляровых алоўкаў па 15 рублёў за пачку, а ў М. Далманава — з Верацееў 6 кг мёду пчалінага коштам 78 рублёў і нават тару з-пад мёда на 8 руб.

Чаго толькі не хапалі бальшавікі. У прыватнасці ў жыхара Варапаева Я. Драгуна з вуліцы Пралетарскай канфіскавалі швейныя іголкі, кручкі і леску для лоўлі рыбы, батарэйкі для кішэннага фанарыка на агульную суму 30 руб. 66 кап., а ў М. Зямчонак з Цівунцаў 193 здобныя булачкі, 3 кг дрожжаў. Варапаеўскай жанчыне Я. Ясінскай з вуліцы Вакзальнай не пашанцавала больш за іншых. У яе забралі аж 23 рэчы на суму 1874 рублі.

Захаваўся акт вопісу маёмасці і асуджанага на падставе прысуду Полацкага абласнога суда 17 красавіка 1950 года ксяндза Віктара Антонавіча Завадскага з Варапаева. Канфіскавана ўладамі было ўсё, што мелася ў святара ад сутаны да посуду, усяго 78 рэчаў на 11285 рублёў. Гэта ўжо потым праз некалькі гадоў бальшавікі пачалі знішчаць самі храмы ці пераўтвараць іх у хлявы ці свірны.

Акрамя абдзірання да ніткі ўласнага народа ўлады знаходзілі для сябе не менш прыемны занятак. Аб адным такім выпадку ў сельсавеце абураныя людзі не пабаяліся нават паведаміць праз газету «Бальшавіцкая праўда». Дзіўна, але ліст быў надрукаваны 15 ліпеня 1950 года ў № 14 пад назвай «Сабутыльнікі пасварыліся».

Вось тэкст кароткай заметкі: «Даруйце нас, паважаны тав. Ушакоў, за турботы, але мы палічылі сваім абавязкам паведаміць Вам аб адной гісторыі, што здарылася на тэрыторыі даверанага Вам сельсавета. Вы ведаеце, што ў калгасе імя Калініна зараз гарачая пара. Трэба будаваць грамадскія будынкі, закончыць сенакос і нарыхтоўку кармоў для жывёлы. Ды і ўборка ўраджаю ўжо на насу. Многа трэба працаваць.

А вось кіраўнікі калгаса вырашылі інакш. 10 ліпеня старшыня арцелі П. Каліцкі, брыгадзір В. Цветнікаў, кладаўшчык І. Якавіцкі і намеснік старшыні праўлення П. Якавіцкі назапасіўшы нямалую колькасць самагону, арганізавалі папойку. З-за чаго выйшла ў сабутыльнікаў спрэчка, мы не ведаем. Вядома толькі, што, перапіўшы, гэтыя «весельчакі» распачалі бойку. Спачатку была нанесена «крыўда» кладаўшчыку. Той вырашыў, што словамі яму не абараніцца і, як кажуць, «змазаў» старшыні. Ад такой абразы ў апошняга пацямнела ў вачах. Ён схапіў трапіўшую ў рукі лапату і пачаў калаціць кладаўшчыка. На чыім баку ўдзельнічалі ў гэтай «баталіі» брыгадзір і намеснік таксама застаецца невядомым. Але нам здаецца, на баку старшыні, бо кладаўшчыку капіла больш усіх. Наогул, як кажуць, была справа...

Без яе засталіся толькі калгаснікі. Нарадаў на работу нам не выдалі. Кожны займаўся, чым жадаў. Праца ў калгасе ў гэты дзень спынілася. Зараз калгаснікі ў непакоі, а што калі кіраўнікі калгаса з гора-бяды будуць п'янстваваць і надалей (цяпер ужо кожны паасобку). Гэдак нядоўга і арцельную гаспадарку прапіць.

Мы спадзяёмся, тав. Ушакоў, што Вы разберыцеся ў гэтым здарэнні і прыміце меры да аматараў «шумных гісторый». Ды такія меры, каб назаўжды адбіць у іх ахвоту і да п'янак і да боек».

Якое было рэагаванне на гэту публікацыю, я не ведаю. Паўшчувалі, пэўна, гэтых гора-кіраўнікоў і пакінулі кіраваць далей. Воран ворану вока не выклюе. Старыя людзі прыгадваюць, што нямала сярод тагачаснай кіраўнічай эліты пападалася ахвочых да дармавой гарэлкі. Да гэтага часу жыве тыповая савецкая практыка «задобрыць» бутэлькай хоць бы таго брыгадзіра, каб атрымаць лепшы надзел для сенакоса ці каня для работ у полі.

Але вернемся ў той пасляваенны час. Пазнаёміўся я ў архіве з трыма крымінальнымі справамі жыхароў Пастаўшчыны. Яны добра характарызуюць той механізм уціску і рэпрэсій, які ламаў лёсы нашых сялян. Вось адна «справа» VI-73 на Галатыльца Івана Людвікавіча. Тыповае абвінавачванне па арт. 93 ч. 2 КК БССР за злоснае ўхіленне ад платы сельгаспадатку. Датавана 3.01.49. — 26.05.1952 г. Прысуд: 10 гадоў папраўча-працоўнага лагера з паражэннем у правах на 5 год з канфіскацый усёй маёмасці. У гэтай «справе» захаваўся цікавы дакумент:

«Цалкам сакрэтна. 14.01.1949 года.

Начальніку АБКСУ (ОБХСС) УМУС Маладзечанскай вобласці падпалкоўніку міліцыі тав. Яблачкіну.

Просім аб'явіць вышук на схаваўшыхся кулакоў:

1. Талайка Марыя Вікенцьеўна, жыхарка вёскі Ліпнікі Пастаўскага сельсавета і раёна.

2. Шорац Андрэй Сцяпанавіч, вёска Зосіна Пастаўскага сельсавета.

**(Заканчэнне будзе).**



# Новае імя: Анатоль Светлы

АТЕИСТЫ

Ты твердишь: «БОГА нет,
сам сабой настал свет, —
Вся вселенная так сотворилась».
Сон бесчестных миров,
беспредельных покров —
Как, откуда она появилась?
Вверх глаза подними,
Сколько звёзд, посмотри,
Как алмазы сияют, блистают.
Кто их там утвердил,
Им закон положил,
Чьи веленья они исполняют?
Мир прекрасен, велик,
Ум людской не достиг, —
Шар земной во вселенной ничтожен,
Кто же мир весь создал,
как, на чём основал,
Чей закон для него непреложен?
Человек прах земли,
Вот хоть это пойми,
Ты ничтожен как пыль во вселенной.
Кто тебя сотворил,
Всем как есть наделил
Бережёт как алмаз драгоценный.
Обольстившись пустой
И бесшумной мечтой
Обезьяну отцом называешь:
«От неё, — говоришь, —
Люди все родились».
От кого обезьяна? — не знаешь.
От начала всего мир не видел того:
От людей обезьяны родили
А мы видим теперь
Через открытую дверь,
Что людей в обезьян превратили.
Бога знать не хотят,
«Нет души» говорят:
Человека с животным равняют,
И в культурный наш век
Низко пал человек
Хуже зверя подчас наступает,
Души жгут табаком,
Заливают вином,
В них отраву и счастье находят.
Сеют злобу, вражду,
Пожинают нужду
Беспокойно весь век свой проводят.
Бога трудно им знать,
Потому что сравнять
Человека стремятся с животным.
Своих близких гнетут,
К смерти вечной идут
Без надежды, без чувств, беззаботно
Друг пойми, что любовь поднимает покров
И ведет к вечной правды познанию:
Что лишь в Боге одном
Жизнь и мир обретён
Без Него же не жизнь, а страданье.

ЛНГ

Был у Христа младенца сад
И много роз взрастил Он в нём.
Он трижды в день их поливал,
Чтоб сплесть венок Себе потом.
Когда же розы расцвели,
Детей еврейских Он созвал
Они сорвали по цветку.
И сад был весь опустошён.
«Как Ты сплетёшь Себе венок?
В Твоём саду нет больше роз...»
«Вы позабыли что шипы
Остались мне сказал Христос.
И из шипов они сплели
Венок колючий для Него.
И капли крови вместо роз
Тело ускрасили Его.

x x x

Нам жизнь дана, чтобы любить,
Любить без меры, без предела
И всем страдальцам посвятить
Свой разум, кровь свою и тело
Нам жизнь дана чтоб утешать
Униженных и оскорблённых
И огревать и насыщать
Увенченных, слабых и бездонных
Нам жизнь дана, чтоб до конца
Бороться с тьмой, бороться с ложью
И сеять в братские сердца
Одну святую правду Божью
А правда в том, чтобы любить,
Любить без меры без предела
И всем страдальцам посвятить
Свой разум, кровь, свою и тело.

x x x

Мой духовный сад, как запущен ты,
От негодных трав заросли тропы.
Пробудись от сна, посмотри кругом
Где ты спишь душа: что в саду твоём.

x x x

Нет чудесных роз к Богу рвения
Их застудил мороз неродения.
Где, скажи, твой знак воздержания,
Где твой Божий страх, где рыдания?
Незабудки где цвет смирения?
Их унёс твой ветер неродения.
Тёмной тучею мрак затмения
Открыл светлый путь умиления
Глаз мольбы твоей, посмотри, застыл
Охладела ты в духе лестности,
Потеряла ты драгоценности.

МЫ ЖЫВЕМ ЛЯ ГРАНІЦЫ

# Гадуцішкі мусяць быць беларускімі, а тэрыторыя краіны—недатыкальнаю

Апошнім часам МЗС Беларусі накіравала ўраду Летувы некалькі нотаў пратэсту. Адна з іх датычыць памежных інцыдэнтаў. У прыватнасьці, 26 мая літоўскія паліцыянты нашых грамадзянаў В. Карповіча і С. Маркевіча, якія вярталіся ў Беларусь і ня выканалі патрабаванне спыніцца, паглыбіліся ў тэрыторыю Беларусі на 500 метраў у раёне населенага пункту Ажуболі Воранаўскага раёну Гродзенскай вобласці, ужылі табельную зброю і фізічную сілу ў дачыненні да вышэйзгаданых грамадзянаў Беларусі.

29 мая сёлета літоўскі паліцэйскі камісарыят у раёне пункту пропуску «Доцішкі» праводзіў аперацыю затрымання супрацоўніка Воранаўскай мытні І. Рыдвана падчас атрымання хабару. Падчас затрымання паблізу дзяржаўнай мяжы літоўскія паліцыянты ўжылі зброю. Такім чынам, па віне прадстаўнікоў літоўскай паліцыі паблізу ад дзяржаўнай мяжы былі створаныя сітуацыі, якія неслі пагрозу для жыцця вайскоўцаў памежных войскаў і мясцовага насельніцтва Рэспублікі Беларусі і якія маглі выклікаць непажаданы інцыдэнт на мяжы.

Памежнымі ўладамі Літоўскай Рэспублікі ў парушэнне Часовага Пагаднення паміж урадамі Беларусі і Летувы 4 чэрвеня сёлета без афармлення адпаведных дакументаў (акт аб прыёме-перадачы грамадзянаў) і без паведамлення былі вытураныя з тэрыторыі Летувы на тэрыторыю Беларусі на электрацягніку «Марцінкеніс —Гродна» 32 грамадзяніны Індыі і 32 грамадзяніны Пакістана.

У ноце падкрэсліваецца, што падобныя незаконныя дзеянні «маюць месца ўжо ня ў першы раз» і калі іх не спыніць, гэта можа «дэстабілізаваць сітуацыю ў беларуска-літоўскім памежжы, нанесці страты добрасуседскім адносінам паміж нашымі краінамі». Дзве другія ноты датычаць вядомай гісторыі з разборам чыгуначнага палатна на станцыі Гадуцішкі. Дарэчы, карэспандэнту «СВАБОДЫ» стала вядома, што беларуская дэлегацыя, якая вядзе з Летувою перамовы па дэлімітацыі і дэмаркацыі дзяржаўнай мяжы, атрымала з Вярхоўнага Савету пісьмовае даручэнне кіравацца на перамовах тым фактам, што Гадуцішкі з'яўляюцца ўласнасцю Беларусі. На выпадак, калі вырашэньне гэтага пытання будзе зацягвацца, Савету Міністраў даручана «прадугледзець магчымасць правядзення па тэрыторыі Рэспублікі Беларусі дадатковага (паралельнага) чыгуначнага палатна».

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ.**

# Аб візах у Літву і не толькі

**Многіх пастаўчан цяпер непакоіць існуючы парадак пераходу беларуска-літоўскай граніцы, людзі скардзяцца на цяжкасці з атрыманнем візаў для выезду да суседзяў. Мы палічылі неабходным давесці да чытачоў думкі Часова паверанага ў справах Літоўскай Рэспублікі ў Беларусі пана Альфонсаса АЎГУЛІСА на гэтых хвалюючых пытаннях. Дарэчы, пан пасол родам з Беларусі, нарадзіўся на Гродзеншчыне ў Астравецкім раёне і да шостага класа вучыўся ў беларускай школе.**

— Я згодны з многімі нараканнямі грамадзян Беларусі ў наш адрас, — сказаў пан Аўгуліс. — Сапраўды, мы пакуль не ў стане забяспечыць усіх жадаючых, прытым апаратыўна, візамі. Але ж згадзіцеся, кожная дзяржава павінна мець межы і ахоўваць іх законамі. З іншага боку ні ў адным законе няма палажэння, якое б дазваляла пагранічніку ці мытніку здзекавацца з людзей, якія перасякаюць граніцу. Горка і смешна, калі брат брата не мае магчымасці наведаць, не можа правесці кілаграм —другі сала ці яблыкаў. З такімі фактамі не магу мірыцца, паверце.

Сёння візы ў першую чаргу атрымліваюць тыя, хто мае ў Літве сваякоў, блізкіх людзей. Ніякіх праблем для тых, хто вымушаны ехаць туды па тэлеграме з выпадку, не дай Бог, гора, ці, наадварот, радаснай падзеі. Наогул, супрацоўнікі пасольства яшчэ зусім нядаўна за дзень выдавалі да 200 віз. Працавалі па 18 гадзін у суткі.

Цяпер каля будынка па вуліцы Варвашэні ў Мінску, дзе мы арэндуем на 3 паверсе некалькі пакояў, зранку збіраецца натоўп. Многіх людзей мы добра ведаем — гэта так званыя «чаўнакі», спекулянты, якія робяць бізнес шляхам вывазу прадуктаў з Беларусі ў Літву і «атаварвання» далярамі. Таму мы імкнемся стрымліваць іх і выдаваць дакументы на выезд тым, хто ўпершыню хоча пабываць у нашай краіне, хто едзе туды са шчырай душою, каго там вельмі чакаюць.

У наша пасольства звяртаецца шмат наведвальнікаў, якія просяць навесці парадак на кантрольна-прапускных пунктах. Нядаўна мы з беларускім паслом панам Вайтовічам праехалі ўздоўж усёй мяжы, якая падзяляе нашы краіны, у 700 кіламетраў. Уражанні, мякка кажучы, самыя адмоўныя. І не таму, што ні з вашага, ні з нашага боку пагранічнікі і мытнікі не бралі пад казырок. Магчыма, гэта не віна іх, а бяда. Галоўнае — на мяжы, візітнай картцы любой дзяржавы, пануюць хабарніцтва, хамства, бяздушша да людзей, што перасякаюць граніцу. Значыць, не ўсё ў нас добра з падборам і растаноўкай кадраў, на службу трапляюць выпадковыя асобы, гонар дзяржавы для якіх — пусты гук. На маю думку, там павінны працаваць людзі з чыстымі рукамі і добрым сэрцам. Інакш межы будуць падзяляць нашы народы. Дарэчы, нядаўна прынята пастанова, згодна з якой дадзены льготы на свабодны ўезд і выезд многім катэгорыям грамадзян.

Яшчэ адзін момант. Напачатку літоўскае пасольства знаходзілася ў гасцініцы «Арбіта». Цяпер вось арэндуем плошчу тут. Мы прасілі ўрад і Мінгарвыканком аддаць нам будынак аднаго з дзіцячых садкоў, які вызваліўся. Не, яго аддалі пад казіно. У той жа час зірніце, дзе знаходзіцца пасольства Рэспублікі Беларусь у Літве, — у шыкоўным асабняку ў цэнтры Вільнюса.

Я толькі спыніўся на некаторых вострых пытаннях. А іх, на жаль, нямала. Напрыклад, чаму пісьмы з Вільнюса ў Мінск і наадварот ідуць праз Маскву? Каб ліст дайшоў хутчэй, чалавек вымушаны тайна перасякаць мяжу і апускаць канверт у паштовую скрыню, якая знаходзіцца ў беларускай вёсцы. Такая ж з'ява і з беларускага боку.

Спадзяюся, што нашы ўрады нарэшце зробяць, усё, каб народы-суседзі жылі, як раней: мірна, спагадліва, з верай у дзень заўтрашні.

АБ КІМ ГАВОРАЦЬ

# Чацвёртае замужжа Галіны Брэжневай

Як паспелі паведаміць некаторыя газеты, дачка былога генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. І. Брэжнева 64-гадовая Галіна Леанідаўна зноў сабралася замуж. Неафіцыйныя крыніцы сведчаць, што яе абраннікам стаў малады (29 гадоў) правінцыял, які займаецца ў Маскве дробным бізнесам.

Аднак ці дойдзе справа да вяселля — невядома: зараз Галіна Брэжнева праходзіць чарговы курс лячэння ад алкагалізму ў Цэнтральнай крамлёўскай бальніцы, куды ў апошні час пападае рэгулярна — усё ж з тым дыягназам. У бальніцы ў яе ўжо сваё месца, якое ніколі не займаюць, бо пацыентку могуць даставіць у любую мінуту.

Тым не менш на гэты раз дачка вядомага марксіста-ленінца амаль штодзень піша петыцыі галоўнаму ўрачу — як гавораць з запэўньваннямі у тым, што «пакахала чалавека», а таму «з п'янствам скончана назаўсёды», і з просьбамі адпусціць на волю ў сувязі з будучым замужжам. Здзіўленым сваім суседкам па палаце яна сваё захапленне каменціруе так: «Любіць трэба ўсё жыццё, пакуль жывеш...»

Па звестках той жа крыніцы, дачка Галіны Вікторыя, даведаўшыся аб намерах маткі, была проста шакіравана: бо патэнцыяльны жаніх, дарэчы, які наведваў Г. Брэжневу і ў бальніцы і быў адзначаны сведкамі як «самы звычайны малады чалавек», які не намнога старэй яе ўласнай унучкі.

Невядома, ці здолее Вікторыя Брэжнева паўплываць на рашэнне маці. Мяркуючы па ўсім, іх адносіны не складваюцца лепшым чынам. Так, цяпер Галіна Брэжнева аб'явіла, што дачка яе абакрала і забрала сабе ўсё, што было набыта дзякуючы бацьку. Вікторыя ж катэгарычна запатрабавала маці з бальніцы не выпускаць ні пры якіх умовах...

**Ірына ХМАРА.**

**Як вядома, Галіна Брэжнева была замужам тры разы. У 22 гады, збіраючыся выступаць на арэне цырка, яна выйшла замуж за вядомага артыста Яўгена Мілаева, які быў у два разы старэйшы за яе. Першы шлюб цягнуўся 11 гадоў, затым Галіна захапілася Ігарам Кіо, 18-гадовым ілюзіяністам. Ей у той час было 33. У 1962 годзе яны пажаніліся, але па распараджэнню Брэжнева шлюб быў разарваны. У 1971 г. Галіна выйшла замуж за Юрыя Чурбанава, тады дробнага афіцэра міліцыі. Затым быў раман з 29-гадовым цыганскім акцёрам, якога арыштавалі ў 1982 г. і прыгаварылі да 7 гадоў за спекуляцыю джынсамі і кажушкамі. Упершыню ў клініку па лячэнню ад алкагалізма Галіна трапіла пасля смерці Брэжнева. А пасля арышту Чурбанава стала пастаяннай пацыенткай.**

**Жыве Галіна Брэжнева ў Маскве на вуліцы А. Талстога (побач з заапаркам) адна ў трохпакаёвай кватэры. Амніс[ц]іраванага Ельцыным мужа экс-генерала Чурбанава, які вярнуўся нядаўна з зоны, у кватэру не пусціла, а яго рэчы прапіла. Тры гады назад пасля апеляцыі ў судзе Брэжнева атрымала назад антыкварную мэблю, брыльянты і дачу, якую , па чутках, яе сям'я зараз здае за 1000 долараў у месяц.**

# ЦЭНЫ

ШТО І ПА ЧЫМ У СУСЕДЗЯЎ?

| Назва прадукта | Краснаярск | Навасібірск | Барнаул | Омск | Іркуцк |
|---|---|---|---|---|---|
| Хлеб пшанічны, 1-ы гатун. | 693 | 533 | 560 | 341 | 741 |
| Мука вышэйшы гатун. | 677 | 504 | 432 | 400 | 676 |
| Свініна | 3927 | 3375 | 2850 | 2000 | 4200 |
| Каўбаса вароная | 5271 | 5816 | 5100 | 4475 | 4485 |
| Каўбаса паўкапчоная | 8307 | 8756 | 6733 | 5520 | 8725 |
| Ялавічына | 3166 | 2912 | 2700 | 1900 | — |
| Масла сметанковае | 4896 | 3751 | 3925 | 3330 | 6500 |
| Смятана | 3328 | 1230 | 2206 | 1472 | 3065 |
| Малако пастэрызав. | 549 | 421 | 460 | 305 | 535 |
| Маянез | 3633 | 3018 | 4160 | 4198 | 3320 |
| Сыр цвёрды | 5123 | 4663 | 4600 | 4073 | 6250 |
| Маргарын | 2683 | 2049 | 2855 | 2380 | 2500 |

**Расія. Сярэднія цэны на асноўныя харчовыя тавары ў буйнейшых гарадах Сібіры. Па стану на 5 ліпеня 1994 года. Цэны ў рускіх рублях за 1 кг ці 1літр. Сёння 100 беларускіх рублёў ідуць па курсу 7 руб. 38 кап. расійскіх.**

«Сумежжа». Заснавальнікі: Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Рэгістрацыйны нумар 701 у міністэрстве інфармацыі РБ. Выходзіць два разы на месяц.

Рэдакцыйны савет А. Гарбуль, М. Гіль, А. Касцень, І. Сідаровіч, У. Шык, І. Атрахімовіч, П. Карназыцкі, Ф. Цыбульскі, А. Стахоўскі, Г. Гучык.
Рэдакцыя друкуе матэрыялы аўтараў, пазіцыю якіх не заўжды падзяляе.
Пішыце: 211840, г. Паставы, вул. Бальнічная, д. 11 Гілю М. Н. Тэлефануйце: 2-17-84, (пасля 19 гадзін)

Індэкс 63986. Тыр. 500
Пастаўская узбуйненая друкарня
г. Паставы, вул. Ленінская, 42.
Зак. 1565
Падпісана да друку 25.07.94.
Выдаецца на грамадскіх пачатках.